**5 снежня /субота/ 19:00**
вул.Маякоўскага, 46-1

# ДРУКАРНЯ ВЕЧНАГА ВАЛАЦУГІ

УВАХОД ВОЛЬНЫ • **стар.2**

---

# DZEDZICH-TODAY

Чатыры праекты Дзедзіча,
у якіх вы можаце паўдзельнічаць
ужо сёння! • **стар.4**

*Зберагчы і навялічыць*

# Дзедзіч



КАСТРЫЧНІК 2015 • №7 (94)
ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Дзедзіч запрашае
## на дзень адчыненых дзвярэй!

**Шмат хто з берасцейскай моладзі чуў пра Дзедзіч, і нават трымаў у руках такі самы бюлетэнь, які зараз трымаеце вы, але пытанняў пра дзейнасць гэтай моладзевай арганізацыі вельмі шмат.**



І вось, нарэшце, дзедзічы вырашылі распавесці пра сябе і запрасіць усіх ахвотных і зацікаўленых у госці на гарбату і расповед у малюнках (фотаздымках) пра ўсё, што было і яшчэ будзе зроблена.

Агенцтва рэгіянальнага развіцця «Дзедзіч» існуе ўжо 16 год, і дзень адчыненных дзвярэй ладзіцца ўсяго толькі другі раз – і гэты дзень дакладна не павінен прайсці міма вас, актыўных і неабыякавых маладых берасцейцаў!

Прыходзьце 28 лістапада на офіс Дзедзіча, і мы адкажам на ўсе вашыя пытанні – сціплыя і не.

У межах дня адчыненых дзвярэй адбудзецца:

- прэзентацыя дзейнасці па тэматычных блоках (беларуская культура, грамадская дзейнайсць, праекты «НАША МОВА», «ЁСЦЬ РАЗМОВА», «О, Балонь», кампанія ЗА ВЕЛА-БРЭСТ),
- презентацыя фота і відэа звязаных з дзейнасцю Дзедзіча,
- адказы на пытанні,
- запіс у сябры і валанцёры «Дзедзіча»,
- падарункі і прызы за лепшыя пытанні,
- і самае цудоўнае - выступ беларускага гурта RAHIS.

Сябры «Дзедзіча» распавядуць пра тое, чым займаецца арганізацыя ў апошнія гады і, канешне, пра планы на будучыню – пра тое, дзе менавіта вы можаце прыняць удзел (ці нават арганізаваць): культурныя імпрэзы, сацыяльныя, грамадскія, экалагічныя акцыі, міжнародныя моладзевыя абмены і нават журналістыка.

Словам, цікавай працы хопіць усім!

**Сустрэча адбудзецца 28 лістапада, а 15 гадзіне на офісе «Дзедзіча» па адрасе: вул. Маякоўскага 46/1.**

# Хто такі Дзедзіч?

**Пра тое чым займаюцца дзедзічы ў вольны ад вучобы і працы час і каму і навошта гэта можа быць патрэбна.**

АРР «Дзедзіч» быў заснаваны ў лістападзе 1999 года студэнтамі БрДУ. Па сённяшні дзень галоўная задача арганізацыі застаецца нязменнай - спрыяць развіццю беларускай мовы і культуры. Але гэта мэта не адзіная. Сярод іншых - падтымліваць грамадзянскую актыўнасць моладзі, захоўваць гістарычную спадчыну, пашыраць міжнародныя кантакты моладзі.

За 16 год працы Дзедзіч сабраў шмат актыўных маладзёнаў, якія рэалізоўвалі свае ідэі і прасоўвалі дзейнасць арганізацыі па розных напрамках.

Склаўся даволі значны культурны сектар, інфармацыйны, экалагічны, напрамак звязаны з моладзевымі абменамі, і праца з валанцёрамі. Акрамя таго, нельга выкрэсліць з дзейнасці і ўдзел дзедзічаў у палітычным жыцці краіны.

Сёння Дзедзіч абнавіўся - па-першае, новы офіс на Маякоўскага 46/1, чароўная сядзіба, пабудаваная «за польскім часам». Па-другое новы сайт і новы фармат падачы навінаў. Па-трэцяе, і самае важнае, новыя сябры, што значыць і новыя ідэі, і новыя праекты.

Далучайся! З намі ты можаш:

**• АДПАЧЫЦЬ:**

- праводзіць вольны час цікава і з карысцю для сябе і грамадства;
- стаць лідэрам, карыстацца павагай сярод сваіх равеснікаў;
- знайсці новых сяброў і выдатна адпачыць.

**• УДАСКАНАЛІЦЬ СЯБЕ:**

- атрымаць дадатковую адукацыю на трэнінгах і стажыроўках у Беларусі і за мяжой;
- атрымаць навыкі карыстання кампутарам і відэатэхнікай;
- навучыцца фармуляваць свае думкі;
- атрымліваць свежую інфармацыю аб падзеях ў краіне;
- паспрабаваць сябе ў ролі журналіста, дызайнера, арганізатара.

**• ЗРАБІЦЬ СВЕТ ЛЕПШЫМ:**

- далучыцца да руху за беларускае Адраджэнне;
- апублікаваць свае творчыя і навуковыя працы: вершы, эсэ, вынікі даследаванняў;
- рэалізаваць самыя смелыя ідэі;
- уплываць на лёс краіны.

**Знайсці Дзедзіч у сеціве не складана:**

1. Сайт dzedzich.org;
2. Twitter: https://twitter.com/dzedzich
3.Facebook: https://www.facebook.com/dzedzich.org/
4. Укантакце: https://vk.com/dzedzich_berascie

# Друкарня вечнага валацугі

Хістаючыся разам па дварах мы згаварыліся дзеля сумеснай працы. У гэты дзень мы хацелі б прэзентаваць вам калабарацыю двух аднадумцаў: ИСТОК ДВАДЦАТЬ і ДЗЕДЗІЧ. На гэтай сустрэчы кожнаму, хто прыйдзе, мы надрукуем прынт на яго вопратку і падсунем лімітаваную паштовую картку. Ва ўсіх працэсах вырабу паштовак і прынтоў вы зможаце паўдзельнічаць асабіста. Чакаем усіх валацуг, гультаёў і свабодных людзей па адрасе: Маякоўскага, 46-1!

Галоўным героем нашай сумеснай працы мы зрабілі Язэпа Драздовіча – выдатнага мастака, небазнаўцу, пісьменніка, археолага і танцора, які можа паказаць табе Сатурн і Беларусь. Драздовіч увасабляе сапраўднага вандроўніка, такога ж як і ты.

**П.С.** Калі ў каго будзе на кішэні 40.000 руб., той зможа прыкупіць сабе бланкавую цішотку, на якой і зробіць малюнак.



# DZEDZICH-TODAY

## Чатыры праекты «Дзедзіча», у якіх вы можаце паўдзельнічаць ужо сёння!




### 1. ЁСЦЬ РАЗМОВА

ЁСЦЬ РАЗМОВА – праект АРР "Дзедзіч", у рамках якога берасцейцаў чакаюць сустрэчы з цікавымі людзьмі і займальныя лекцыі. Гэтыя бясплатныя мерапрыемствы накіраваны на развіццё інтэлектуальных зносін у Берасці, на фарміраванне ў публікі больш аб'ектыўных поглядаў на гісторыю, культуру, эканоміку Беларусі і павышэнне ўзроўню грамадзянскай актыўнасці.

ЁСЦЬ РАЗМОВА – самы малады на сённяшні дзень праект «Дзедзіча». Але ўжо ён сабраў даволі вялікую аўдыторыю – людзей самых розных, але аднолькава зацікаўленых і неабыякавых. Адбылося восем сустрэч з вядомымі гасцямі, такімі як Алесь Таболіч, Сяргей Чалы, Віктар Марціновіч, Раман Свечнікаў і з іншымі.

**Распавядае Алена, кіраўнік і каардынатар праекту:**

**– Як узнікла ідэя праекту?**

– Калі мы думалі, што можна было б цікавага зрабіць, мы заўважылі, што ў Берасці вельмі рэдка ладзяцца якія-небудзь сустрэчы, лекцыі з вядомымі беларусамі. Першая такая сустрэча адбылася з Ромам Свечнікавым, папулярным зараз у байнеце падарожнікам і блогерам, і Барысам Нікалайчыкам, былым рэдактарам 34mag.net. Быў аншлаг і стала зразумела, што распачатую справу трэба працягваць.

**Як абіраецца тэма сустрэчы?**

– Мы рабілі апытанку ў "Укантакце" наконт тэматыкі будучых сустрэч. Першае месца заняла тэма "Музыка", таму зараз дамаўляемся з беларускім гуртом "Рахіс", яны мабыць яшчэ не наведвалі Берасце, а кватэрнікі ладзяць добрыя. Павінны прыехаць напрыканцы лістапада.

**– Чаму ты займаешся гэтым праектам?**

– Па-першае, сам працэсс камунікацыі з людзьмі, дамаўляцца, запрашаць гасцей, знаёміцца. Гэта заўжды цікава – сустракаць новых людзей, тым больш вядомых, пра якіх раней чытаў навіны у нэце. А па-другое, я ведаю, што раблю карысную справу. Праз гэтыя сустрэчы берасцейцы могуць даведацца пра нешта новае і сучаснае ў афлайн фармаце, пашырыць свой кругагляд. Мы не Менск, і публічныя сустрэчы, лекцыі, на жаль, ладзяцца ў нас даволі рэдка.

**– Якія ёсць складанасці ў кіраванні праектам?**

– Самае складанае – вызначыцца з датай, бо людзі ўсе занятыя. Цяжка рэкламу рабіць, аднак, калі тэма і чалавек цікавыя, людзі прыйдуць і без надта моцнай рэкламнай кампаніі. Пры жаданні – усё магчыма.

**– А што самае прыемнае?**

– Шмат чаго. Даволі файна бывае потым паразмаўляць з госцем у нефармальных абставінах, камусьці горад паказаць, распавесці пра Берасце. Хаця на гэта не заўсёды хапае часу. Таму мы былі б рады новым валанцёрам, якія маглі б дапамагаць у такой прыемнай справе.

Суполка праекта у ВК: **vk.com/joscrazmova.**



## 2. ЗА ВЕЛА-БРЭСТ!

Чым займаецца гэты праект зразумела адразу: ровары і ўсё, што з імі звязана. Кампанія існуе ўжо некалькі год і можа пахваліцца і мэтамі сур'ёзнымі, і важнымі дасягненнямі. Больш таго, праект выйшаў за межы проста праекта і функцыянуе як самастойная арганізацыя.



Інфармацыйна-асветніцкая ўстанова «ЗА ВЕЛА-БРЭСТ!» была заснавана ў 2009 годзе. А зарэгістравацца атрымалася толькі ў мінулым годзе.

«ЗА ВЕЛА-БРЭСТ!» распачаў сваю дзейнасць як інфармацыйная кампанія, быў створаны сайт, сацыяльнае відэа і іншыя матэрыялы. Сайт **velo.dzedzich.org** працуе і зараз, там можна знайсці карысныя матэрыялы для раварыстаў і маршруты па горадзе і ваколіцах.

Амаль адразу пачаліся і больш актыўныя дзеянні: збор подпісаў, звароты ў гарвыканкам і барацьба за правы раварыстаў і безбар'ернае перасоўванне на ровары па горадзе.

Былі і творчыя конкурсы – напісанне эсэ, нават мастацкіх твораў пра раварыстаў, велафотаконкурс і стварэнне календара з фоткамі пераможцаў. Працаваў у горадзе вела-патруль, які "лавіў" мінакоў на роварных сцежках.



Важнымі аказаліся і міжнародныя стасункі – да гэтага часу ідзе барацьба за магчымасць перасякаць мяжу на ровары і ездзіць з Берасця ў Тэрэспаль і назад (збор подпісаў, звароты да улад па абодва бакі мяжы).

**Распавядае Уладзімір, кіраўнік «ЗА ВЕЛА-БРЭСТ!».**

**– Расскажыце пра самыя запамінальныя моманты з працы кампаніі!**

– Такіх момантаў шмат. Адзін з самых яскравых – гэта момант правядзення роварнага прабегу ў 2012 годзе. На той час мы ўсталявалі рэкорд, і на велапрабег сабралі каля паўтысячы удзельнікаў! А ў красавіку гэтага года, калі Берасце і Батумі (Грузія) сталі гарадамі-пабрацімамі, інфармацыйна-асветніцкая ўстанова "За вела-Брэст!" паглядзела на ўмовы для раварыстаў у сонечным Батумі. Ну і канешне ж прывезлі на Радзіму шмат цікавых ідэй.



ПРАЦЯГ на старонцы 6 ▸

# DZEDZICH-TODAY

**ПРАЦЯГ. Пачатак на старонцы 4**

## 3. НАША МОВА

Кампанія «НАША МОВА» – дзейнасць «Дзедзіча» па папулярызацыі беларускай мовы і культуры.

Праект, заснаваны ў студзені 2012 года, паспяхова існуе ўжо амаль тры гады. За гэты час праведзена мноства разнастайных мерапрыемстваў, конкурсы, паездкі, віктарыны, мы нават спявалі на вуліцах беларускія песні і развешвалі ў аўтобусах урыўкі з вядомых беларускіх твораў.

У мінулым годзе, магчыма, самай яскравай падзеяй у межах кампаніі стаў выхад кнігі – дзіцячай казкі «Дзяцел, лісіца і варона» з малюнкамі берасцейскай мастачкі Ганны Яцкевіч. Акрамя таго, вандравалі па літаратурнай Берасцейшчыне, пісалі вершы і дзённікі беларуса (удзельнікі конкурсу павінны былі размаўляць напрацягу дня толькі па-беларуску, нават у самых "няёмкіх" абставінах).

Сёння каманда НАШАЙ МОВЫ рэалізуе новыя ідэі. Распавядае Таццяна, кіраўнік і каардынатар праекту.

**– З чаго пачалася кампанія ў гэтым годзе?**

– Першае, што мы зрабілі, гэта конкурс паштовак да дня гораду. Мы надрукавалі працы пераможцы і проста раздалі частку мінакам на вуліцы, а частку – за актыўнасць у нашай суполцы ў "Укантакце". Раздаваць было файна, людзям вельмі падабалася.

Пасля мы зладзілі «Шляхецкую вечарыну» – да нас завітаў клуб гістарычнай рэканструкцыі з Віцебску "Паўночная Вежа". Танчылі сапраўдныя беларускія бальныя танцы 19 стагоддзя ды гралі ў настолкі таго ж часу «Флірт кветак», «Польскія шашкі», «Канатаходзец».

Зараз мы робім шэраг відэа, у якіх вядомыя берасцейскай моладзі людзі (музыкі, мастакі, спартоўцы, грамадскія дзеячы) раскажуць пра свае адносіны з беларускай мовай. Адно відэа – з мастачкай Ганнай Рэдзько – ужо можна паглядзець на youtube і ў ВК: **vk.com/nashamova**.

Яшчэ плануем зрабіць гарадскую гульню і цыкл бясплатных экскурсій па горадзе па знакавых літаратурных мясцінах.

Ну і яшчэ выпадкова так атрымалася, што мы звязаліся з майстрам тату Андрэем Чарнавалавым і з «Исток ХХ», моладзевым брэндам адзення і зрабілі выяву Язэпа Драздовіча. Пакуль мы гэтую выяву трымаем у сакрэце, але хуткім часам зладзім імпрэзу, куды можна будзе прыйсці са сваёй майкай (пажадана светлага колеру, бо малюнак чорнага) і мы бясплатна зробім прынт.

**– Чаму ты займаешся гэтым праектам?**

– Беларуская мова і культура для мяне – вялікая каштоўнасць, і як бы пафасна гэта не гучала, я не магу проста так глядзець на сённяшнюю, даволі сумную сітуацыю. Мне хацелася б, каб як мага больш людзей была як мінімум неабыякавая да гэтай праблемы. І я раблю, што магу, і веру, што гэта не дарэмна.





**4. О, БАЛОНЬ!**

О, БАЛОНЬ!– пад такой назвай у Берасці «Дзедзіч» рэалізуе праграму "Балонскі працэс і Беларусь".

Кампанія з самага пачатку (2013 год) мела больш інфармацыйны і адукацыйны напрамак. Хаця прайшло ўжо даволі часу і Беларусь нават прынялі Балонскі працэс (14 траўня 2015г.), актуальнасць праекту не паменьшылася. Не кожны беларускі студэнт можа пахваліцца добрымі ведамі пра Балонскі працэс. Больш таго, фармальнае ўступленне Беларусі не пацягнула за сабою фактычных і рэальных зменаў у сістэме вышэйшай адукацыі ў Беларусі. Пра тое, якімі гэтыя змены павінны быць, і распавядае сёння кампанія О, БАЛОНЬ!

Распавядае Вольга, каардынатар праекту.

**– Навошта існуе гэтая кампанія?**

– Мы хочам, каб як мага больш людзей мела магчымасць атрымаць больш дакладную і сучасную інфармацыю пра тое, што такое насамрэч Балонскі працэс, што такое студэнцкае самакіраванне. Каб навучэнцы ведалі, што абіраць прадметы, выкладчыкаў, нават рэктара – гэта не казка, а рэальная магчымасць.

На жаль, зараз Беларусь не адпавядае прынцыпам Балоні на 100 адсоткаў, але гэта можна выправіць. Мы верым у моц ведаў.

**– Што ў планах гэтым сезонам?**

– Плануем семінары і інфармацыйныя гадзіны са студэнтамі берасцейскіх універсітэтаў, сустрэчы з экспертамі, некалькі конкурсаў, віктарыны. Акрамя таго, на нашай старонцы **vk.com/o_bolon** мы распаўсюджваем інфармацыю пра магчымасці моладзевага абмену з Еўрапейскімі краінамі для студэнтаў усіх спецыяльнасцяў – паехаць вучыцца ў іншую краіну нашмат прасцей, чым падаецца на першы погляд.

Таксама шукаем валанцёраў, будзе шмат цікавага і новага, каштоўныя прызы і магчымасць праявіць сябе ў творчасці.

**dzedzich.org**



# Сустрэча з Віктарам Марціновічам
## у Берасці

**У пятніцу, 31 кастрычніка, грамадская кампанія "Будзьма Беларусамі" пры падтрымцы Дзедзіча зладзіла сустрэчу з вядомым сучасным беларускім пісьменнікам і гісторыкам Віктарам Марціновічам.**




Вечарам на Хэлоўін на офісе Дзедзіча разгарнулася гарачая дыскусія на тэму таго, што азначае быць беларусам, дакладней, быць свядомым беларусам, і ці трэба для гэтага ведаць і шанаваць нацыянальных герояў.

Размову пачаў Віктар Марціновіч аповедам пра Марка Шагала, якога доўгі час не лічылі беларусам, і які, больш за тое, сам сябе ніколі ім не лічыў. Аднак у творчасці мастака вельмі бачныя матывы Віцебску, горада, дзе нарадзіўся мастак. Дарэчы, хутка выйдзе ў свет кніга Віктара Марціновіча "Марк Шагал. Радзіма".

Пытанне паўстала само сабой: чаму беларусы так доўга выракаліся свайго славутага на ўвесь свет земляка? Чаму не адстойвалі яго ў расейцаў і французаў? І чаму гэтая гісторыя паўтараецца зноўку і зноўку з іншымі выбітнымі асобамі нашай зямлі?

На жаль, гэтыя пытанні так і не маюць адказаў. Затое сапраўды горача стала тады, калі адзін з слухачоў выказаў думку, што не так ужо нам і патрэбныя гэтыя нацыянальныя героі: "Чаму нельга проста сказаць я беларус – і ганарыцца гэтым? Навошта ўспамінаць нейкіх домрачавых, мірных, шагалаў?" Аднак нельга не пагадзіцца, што адчуваючы гонар за Алексіевіч, Караткевіча – любога знакамітага беларуса, ты адчуваеш гонар быць таксама беларусам.

– Праблема ў тым, – кажа Віктар Марціновіч, – што ў часы СССР склаўся своеасаблівы "пантэон" беларускіх дзеячоў культуры, сярод якіх Купала, Колас, тыя ж Песняры, шмат хто, нават, Алексіевіч. Пасля распаду Саюза ў нас, у адрозненне ад іншых постсавецкіх краін, новага культурнага "пантэону" не склалася.

Не абыйшлася сустрэча і без жартаў. Адзін з гасцей сустрэчы распавёў напаўпрыказку-напаўпраўду пра розніцу менталітэту трох усходнеславянскіх народаў (гісторыя прывезена з Грузіі): «Як паводзяць сябе яны пасля святаў і адпачынку? Рускія – пакінулі пасля сябе смецце, украінцы – нешта скралі, а беларусы – прыбралі пасля сябе».

Мерапрыемства адбылося ў межах праекту "ЁСЦЬ РАЗМОВА". У хуткім часе плануюцца новыя сустрэчы з вядомымі людзьмі, сачыце за інфармацыяй на сайце **dzedzich.org** і ў суполцы **vk.com/joscrazmova**.





# Косава - унікальны горад з багатай гісторыяй

**Яшчэ некалькі год таму гэтае месца было ў заняпадзе і ніхто пра яго не ведаў. Гэта радзіма палкаводца і палітычнага дзеяча, горад старажытных храмаў, лакацыя аднаго з найпрыгажэйшых палацаў Беларусі… Вітайце – Косава.**



Проста неверагоднае месца, якое натхняе, здзіўляе і зачароўвае! Гэта мястэчка Косава (сёння Івацэвіцкі раён, Брэсцкая вобласць).

Косава – дзіўны горад з унікальнымі помнікамі архітэктуры. Гэты невялікае мястэчка, насельніцтва якога складае крыху больш за 2 тысячы чалавек, з'яўляецца радзімай знакамітага палкаводца і палітычнага дзеяча Тадэвуша Касцюшкі.

Упершыню горад згадваецца ў 1494 годзе як валоданне маршалка Вялікага княства Літоўскага І.Храптовіча. Мястэчка расло павольна, доўгі час застаючыся ў цені сваіх буйных суседзяў. У 1510 годзе кароль Жыгімонт І Стары выдаў загад, які дазваляў праводзіць у Косава таргі і кірмашы. Аднак найбольшага росквіту горад дасягнуў пры новых уладальніках – магнатах Пуслоўскіх, якія набылі гэтыя землі ў другой палове 18 стагоддзя. Адзін з самых вядомых прадстаўнікоў роду Вандалін Пуслоўскі пачаў будаўніцтва ў Косава палаца, што потым стане адным з найпрыгажэйшых у Беларусі.

Экскурсію ў Косава немагчыма ўявіць без наведвання Пуслоўскага замка. Будаўніцтва яго доўжылася больш за дзесяць гадоў і было завершана ў 1850 годзе. Пра багацці палаца хадзілі легенды: па калідорах быццам гуляў прыручаны леў, у адным з памяшканняў пад шкляной падлогай плавалі экзатычныя рыбкі, а патаемны падземны ход злучаў замак з Ружанскім палацам.

Яшчэ адной візітнай карткай горада, якая прываблівае не менш увагі аматараў адпачынку і турызму ў Беларусі, з'яўляецца музей-сядзіба Касцюшкі ў Косава. Менавіта тут 4 лютага 1746 года нарадзіўся знакаміты правадыр вызваленчага паўстання супраць расейскай акупацыі і нацыянальны герой ЗША Тадэвуш Касцюшка. У 2004 годзе была адноўлена на старым падмурку радавая сядзіба Касцюшкі на аснове малюнкаў Напалеона Орды. Сёння гэта сядзіба адкрыта для наведвальнікаў. Штогод 4 лютага ў Косава праходзяць святкаванні з нагоды Дня нараджэння героя.

Турыстам таксама варта звярнуць увагу на старадаўнія храмы горада. У 1877 годзе на месцы драўлянага касцёла, у якім быў ахрышчаны Тадэвуш Касцюшка, ўзвялі каменны Траецкі касцёл у Косава. Захаваліся і царква Святога Антонія 1868, і драўляная Успенская царква 1871. На ўскраіне горада знаходзяцца старыя каталіцкія могілкі, дзе акрамя капліцы, якая адрозніваецца незвычайнай архітэктурай, падарожнік знойдзе магілу ўдзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага 1863-1864 гадоў. Надмагільны помнік быў усталяваны польскімі ўладамі ў 1928 годзе.

Духам гісторыі і старажытных паданняў прасякнуты кожны куток Косава. Горад, вядомы сваімі унікальнымі славутасцямі і вялікімі выхадцамі па ўсёй Беларусі, назаўжды застанецца ў памяці!

**Марыя Чырык**

# Першы беларус

**Непасрэдным продкам усіх беларусаў можна лічыць толькі першага чалавека, які сам сябе назваў беларусам. Гэта быў Саламон Рысінскі, Solomo Pantherus Leucorussus.**



***Герб «Астоя» - радавы герб сям'і Рысінскіх***

Пэўне ж няшмат на свеце нацыяў, якія ведаюць імя і прозвішча першага чалавека, які да гэтай нацыі належаў. Вядома, кожны народ мае сваіх продкаў, а ўсе мы паходзім так ці інакш ад Адама і Евы. Пра беларусцаў Мацей Стрыйкоўскі пісаў, што паходзяць яны, так як і маскоўцы, ад Ноевага сына Яфэта, ягонага нашчадка Мосаха і Мосахавага «ўласнага патомка» Роса або Руса. Усё-такі непасрэдным продкам усіх беларусаў можна лічыць толькі першага чалавека, які сам сябе назваў беларусам. Гэта быў Саламон Рысінскі, які ў 1586 годзе запісаўся ва Альтдорфскі ўніверсітэт пад Нюрнбэргам як Solomo Pantherus Leucorussus. Гэта і з'яўляецца першай вядомай гістарычнай навуцы дэкларацыяй беларускасці.

Праз два гады ён, у пісьме з каментаром да прац Аўзонія-да, накіраваным свайму нямецкаму суаўтару і сябру Канраду Рытэрзгаўзэну, назваў сваю бацькаўшчыну Leucorossia. У іншым пісьме Рысінскі тлумачыць суаўтару ўжыванне прыналежных прыметнікаў: «Яшчэ і цяпер маскоўцы, беларусы (Leucorussi) і вялікая частка літоўцаў такім часта карыстаюцца».

### • А дзе тая Беларусь?

Да Рысінскага назву Белая Русь прымянялі выключна чужаземныя пісьменнікі ў дачыненьні да самых розных частак Русі: ад Галіччыны праз Валынь, Пскоўшчыну, Полаччыну і Ноўгарад Вялікі па Маскоўшчыну. Пры тым яны пісалі пра «Белую Русь», «белых русінаў» або «беларусцаў». У Рысінскага назвы краіны і нацыі з'яўляюцца адразу ў сённяшняй форме: Беларусь і беларусы, бо так перакладаюцца грэцка-лацінскія тэрміны Leucorossia і Leucorussi.

### • Інтэлектуальны прарыў

А цяпер уявім сабе, што ніхто ў свеце не лічыць сябе беларусам. Пра Белую Русь пішуць толькі чужынцы, прычым памяшчаюць ад Белага да Чорнага мора. Усе навокал называюцца хто русінам, хто ліцьвінам. І вось Рысінскі прыходзіць да думкі, што гэтая «Белая Русь» – менавіта ягоная бацькаўшчына, а беларусам з'яўляецца ён сам. Такім чынам тое, што Рысінскі сябе назваў беларусам, а сваю бацькаўшчыну Беларуссю было абсалютнай навізной, проста гіганцкім інтэлектуальным прарывам.

Застаецца яшчэ ўстанавіць, што канкрэтна значылі для Рысінскага тэрміны беларус і Беларусь. Са згаданага раней выказвання Рысінскага вынікае ясна, што ён не лічыў сябе ні маскоўцам, ні літоўцам. Стасоўна апошніх Рысінскі ведае, што вялікая частка літоўцаў гаворыць па-славянску, але не ўсе (з літоўскай мовай мусіў быць знаёмы з часу, калі настаўнічаў у Жмудзі). Дарэчы, знаёмыя ў Нямеччыне ведалі яго як руса (Russus). Сваю бацькаўшчыну ў прыдуманай самому сабе эпітафіі падчас смяротнай, як яму здавалася, хваробы таксама традыцыйна назваў проста Руссю: «Вось я, каго нарадзіла на мяжы Масквы шматснежнай, / Слаўная звярамі, паляўнічымі пушчамі, борамі Русь». Гэтая Русь ляжала там, дзе бачылі яе тады ўсе тубыльцы, г.зн. над Дняпром і Дзвіной у Вялікім Княстве Літоўскім.

### • Пад маскоўскай акупацыяй

Тэрміналогія, якой карысталіся сучаснікі Рысінскага, дазваляе ўстанавіць месца яго нараджэння. Саламон быў, як можна меркаваць, сынам шляхціца Фёдара Рысінскага

гербу Астоя з Рысіна ў Полацкім ваяводстве (сёння ў Расеі). Сам Рысінскі ўсё-такі двойчы назваў як месца свайго нараджэння Кабыльнікі. Існавалі тады дзве мясцовасці з такой назвай: мястэчка Кабыльнік (сёння Нарач) у Ашмянскім павеце і ленны маёнтак Кабыльнікі ў Віцебскім ваяводстве. Ашмяны тады не лічыліся часткай ні Русі, ні Белай Русі. У 1585 г. ашмянскія францішкане Белай Руссю (Alba Russia) называлі Полаччыну. Такім чынам, Рысінскі нарадзіўся, відавочна, у Кабыльніках Віцебскага ваяводства. У час яго нараджэння Полаччына знаходзілася пад маскоўскай акупацыяй, і Рысінскія, відаць, вымушаныя былі пакінуць сямейнае гняздо.

### • Беларус, шырэй – сармат

Як беларус, лічыў сябе прыналежным да шырэйшай супольнасьці сарматаў, бо аднойчы падпісаўся як Solomo Rysinius Sarmata. Сарматызм пазьней вырадзіўся ў вузкую ідэалёгію шляхты Рэчы Паспалітай. Усё-такі, у часы Рысінскага і для яго асабіста сармата абазначала альбо грамадзяніна Рэчы Паспалітай і ў тым сэнсе паляка, або, шырэй – славяніна. Рысінскі карыстаўся тэрмінам сармат адначасова ў абодвух значэньнях. Відаць гэта ў яго пісьме да Вінанда Карнэлія. З аднаго боку, Рысінскі захапляецца польскай мовай і называе яе сармацкай, а палякаў – сарматамі. З другога боку, Рысінскі піша, што мова рускага народу таксама



*Крыштап Радзівіл Перун*



багатая, як мова палякаў. Увогуле сцвярджае: «Як шырока сармацкая мова распаўсюджаная, на колькі гаворак падзяляецца, якія народы, якія краіны, якое насельніцтва абымае, тут немагчыма даць дакладны пералік; але, карыстаючыся дабрадзействамі гэтай мовы, кожны зможа прайсці ад Адрыятыцкага заліву да Каспійскага мора без перакладчыка, разумеючыся на такіх велічэзных прасторах. Пры тым, якія народы, якія плямёны, якія акругі ўключае гэтая старана свету, пакідаю дзеля ацэнкі вучоным у геаграфіі». Тут відавочна, што сармацкая мова – гэта мова ўсіх славянаў.

### • Праява Новага часу

Такім чынам, Саламон Рысінскі лічыў сябе беларусам і славянінам, грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Самаакрэсленне Рысінскага як беларуса можна трактаваць як літаратурную гульню. Тым не менш, спосаб думання Рысінскага пра нацыянальнасць – безумоўна праява Новага часу. Раней у ВКЛ этнічнасць была знітаваная з веравызнаннем. Хаця здараліся выняткі, як правіла русін быў праваслаўным, а літовец – каталіком. Рэфармацыя прынесла з сабой ломку традыцыйных этнаканфесійных стэрэатыпаў. У тым сэнсе можна сцвердзіць, што Рысінскі змог падумаць пра сябе як пра беларуса менавіта таму, што быў пратэстантам-кальвіністам.

Рысінскі ніколі не вяртаўся да праблемы сваёй нацыянальнасці, а прынамсі нічога пра гэта не ведаем. Пасля вяртання ў Вялікае Княства служыў Крыштапу Радзівілу Перуну і ягонаму малодшаму сыну, таксама Крыштапу. Да канца жыцця пражываў ва ўласна Літве, перш за ўсё ў Вільні. Займаўся рэлігійнай дзейнасцю, пісаў лацінскія панегірыкі сваім дабрадзеям, збіраў фальклёр і выхоўваў Януша Радзівіла, у будучыні – першага здрадніка Рэчы Паспалітай.

Служба Радзівілам, заўзятым літоўскім сепаратыстам, можа тлумачыць, чаму Рысінскі пра сваю беларускасць больш не згадваў – не месца дзеля гэтага было на двары правадыра Літвы.

**vk.com/dzedzich_berascie**

# Вакол свету на ровары

**Менчук, які едзе вакол свету на ровары, распавядае пра ідэю і матывацыю дарогі**

Актывіст Мінскага роварнага таварыства выехаў увесну ў кругасветную вандроўку на ровары. У яго планах адолець зямны шар ў два этапы. Першы этап стартаваў з Менску 20 красавіка 2015. Мы звязаліся з Аляксеем Ландрэсам, калі ён ехаў па Арменіі ў напрамку Ірана.

Маршрут першага этапу амбіцыйнай вандроўкі выглядае так: Менск – Украіна – Малдова – Балгарыя – Турцыя – Грузія – Азербайджан – Грузія – Арменія – Іран – Пакістан – Індыя - Непал - Філіпіны – Тайланд – Малайзія - Сінгапур. Пералёт альбо ў Японію, альбо Карэю. Пасля Кітай, Казахстан, Узбекістан, Кыргызстан, Расея, Беларусь.

Па задумцы вандроўка мусіць завершыцца ў канцы 2016, або нават пачатку 2017 года.

Аляксей мае адукацыю юрыста і крыху працаваў па спецыяльнасці, але асноўны час траціць на велавандроўкі. У 2013 годзе ён праехаў роварам 11 еўрапейскіх краін за 100 дзён. У Беларусі Аляксей займаецца цікавымі для сябе праектамі: прымае велавандроўнікаў па сусветнай сетцы гасціннасці Warm showers, дапамагае ў арганізацыі імпрэзаў Мінскага роварнага таварыства, ладзіць велавандроўкі для аматараў у Польшчу і Літву.

Калі мы размаўлялі з Аляксеем, ён знаходзіўся ў Арменіі, кіраваўся ў бок Ірану, з якога плануе ехаць у Пакістан.

«Пакістан – самае небяспечнае месца ў гэтай вандроўцы. Гэта будзе самы цяжкі і стрэсавы месяц. Амаль усе стараюцца яго аб’язджаць. Спадзяюся, што ўсё будзе добра. Магчыма атрымаецца некага захапіць для бяспекі. Але покуль не знайшоў такіх вар’ятаў, хто захацеў бы ехаць у Пакістан. Сустрэў на днях хлопца з Кітая, які вандруе на ровары – пасля таго, як даведаўся пра мой маршрут, ён мне сказаў: «Ты мой герой!»

Да любой вандроўкі трэба прыходзіць паступова. Нельга проста ўзяць, сарвацца і вырашыць: «О, а чаму б і не!» Мусіць быць нейкі мінімальны вопыт, і ён да такіх вялікіх вандровак прыходзіць паступова. Я раю рабіць так.

Калі ў горадзе ўжо робіцца не камфортна – выязджаць на ПВД (паходы выходнага дня). Тады ўжо набываеш нейкі рыштунак мінімальны і торбы маеш. Пачынаеш разумець,

што з сабой трэба браць, а што не трэба. Пасля ўжо ехаць у адпачынак на тыдзень-два ў якую-небудзь краіну ці па сваёй пакатацца. Тады, магчыма, захочацца адправіцца ў вялікую вандроўку.

Чаму я вандрую на ровары? Па-першае, гэта танней, але гэта не самы важны прыярытэт. Гэта экалагічны від транспарту, плюс можна даволі хутка вандраваць і паспяваць бачыць нашмат больш. І стасуешся з большай колькасцю людзей. Велатурызм бюджэтны, цікавы, актыўны, карысны і захапляльны. Тут пералічваць станоўчых момантаў можна шмат».

**• Вандроўка пачынаецца з ідэі**

«Велатурызм развівае шмат карысных якасцей. Гэта – матывацыя, гэта планаванне. Нейкія складанасці ў дарозе робяць цябе мацней. Для мяне самае галоўнае, чаму я люблю ровар – гэта дарога. Тое адчуванне, калі едзеш – свабода, лёгкасць.

Планаваў сваю вандроўку амаль год, але рабіў гэта ў павольным тэмпе. Вандроўка пачынаецца з ідэі – куды хочаш адправіцца. Далей матывацыя. Сказаць сабе, што ты сапраўды гэта зробіш, таму што ты вельмі гэтага хочаш. Пасля чаго можаш рабіць усё, што заўгодна. У падарожжы на паўтары гады матывацыя асабліва важная. Без яе на палове шляху людзі ламаюцца і вяртаюцца дадому.

Падрыхтоўка фізічная надзвычай важная. Нельга проста сесці на ровар, і адразу ж сказаць: - «О-па, рвану-ка я ў суседні горад! Чаго тут, усяго 100 км». І думаць, што пасля гэтага наступстваў не будзе. Да такіх кіламетраў прыходзяць паступова. Трэба разумець поўнасцю фізіялогію чалавека. Колькі трэба на руках праязджаць на ровары, як круціць педалі – з якой частатой, хуткасцю. Калі і як пераключацца правільна, каб не забіць калені. Колькі трэба вады піць – не тады, калі хочацца, а кожныя пару кіламетраў. Ты проста п'еш, нават калі не хочаш, таму што гэта неабходна.

**• Знайсці тысячу і аднаго сябра ва ўсім свеце**

«Падчас дарогі проста раблюся мацней, больш матываваным. Больш раздумваю наконт таго, чым я сапраўды хачу займацца ў будучыні. Таму што юрыспрудэнцыя мне не падабаецца, бо я больш схільны да працы з людзьмі. Гэта маё. Нават калі праца не будзе прыносіць вялікую колькасць грошаў – я цяпер лічу: галоўнае не грошы, а праца, якая прыносіць задавальненне. Гэта галоўнае ў жыцці. Атрымліваць ад жыцця задавальненне. Таму што, на жаль, мы не ведаем, як гэта – сапраўды хацець пабачыць больш, давядацца больш і завесці тысячу і аднаго сябра ва ўсім свеце».

Па вяртанні ў Менск Аляксей плануе працаваць ў Менскім роварным таварыстве, прафесійна вазіць людзей на роварныя маршруты, якія сам будзе складаць. Гэтыя маршруты ён плануе рабіць у вольным доступе: – «Я не прывязаны да грошаў, таму мне не шкада».

**generation.by**



